© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Ірына Лашук, Аксана Шэлест

# Сімвалічнае і камунікатыўнае вымярэнне моўных практыкаў беларускіх палякаў

Мова традыцыйна выступае адною з базавых рэальнасцяў, звязаных з паняццямі этнасу, этнічнасці, нацыянальнасці. У розных даследчых традыцыях і падыходах роля і функцыі мовы ў фармаванні або вызначэнні этнічнасці вар'іруюцца ў досыць шырокіх межах: для прыхільнікаў прымардыялізму мова выступае прыроднай асновай этнасу, а значыць «аб'ектыўнай», «натуральнай» характарыстыкай яе носьбітаў; для канструктывістаў – «этнічным маркерам»; для інструменталістаў – адным з асноўных трансляцыйных каналаў этнічнасці і г. д. Аднак незалежна ад падыходу мова прызнаецца найважнейшым этнаўтваральным фактарам, адною з падставаў этнічнай ідэнтычнасці, нагружанай шэрагам функцыяў і аксіялагічных канатацыяў.

У сучасных сацыяльных і гуманітарных навуках адрозніваюць паняцці *этнічная ідэнтычнасць* і *этнічнасць*. Калі этнічная ідэнтычнасць суб'ектыўная, то паняцце этнічнасці, наадварот, уключае ў сябе аб'ектыўныя прыкметы: этнічная прыналежнасць бацькоў, месца нараджэння, культура і г. д. Этнічнасць выступае як прадвызначаная і структураваная грамадствам характарыстыка, у той час як этнічная ідэнтычнасць фармуецца ў выніку канструявання сацыяльнай рэальнасці на аснове этнічнасці, але не зводзіцца да яе. Пры гэтым лічыцца, што *этнічная ідэнтычнасць* – паняцце больш пластычнае за этнічнасць.

Мы трымаемся падыходу, паводле якога этнічная ідэнтычнасць не ёсць нязменным наборам культурных рысаў, а спараджаецца ў працэсе сацыяльнага канструявання. Мова як аснова і крытэр этнічнай ідэнтыфікацыі можа пераасэнсоўвацца з пункту гледжання выкананых ёй функцыяў і ролі, якую яна грае ў розных этнічных групах. Пры разглядзе ролі і функцыі мовы ў фармаванні этнічнай ідэнтычнасці беларускіх палякаў неабходна мець на ўвазе як асаблівасці паходжання і гісторыі самой гэтай групы, так і сацыякультурныя ўмовы сучаснай Беларусі, што накладаюць адбітак на працэсы трансфармацыі этнічнай ідэнтычнасці і моўных практыкаў.

Гэты артыкул напісаны па выніках даследавання супольнасці беларускіх палякаў, праведзенага Інстытутам сацыялогіі НАН Беларусі ў лістападзе-снежні 2008 года. У рамках гэтага даследавання мы разглядалі палякаў тут і цяпер (гэта значыць, у Беларусі ў цяперашні час) як сімвалічную супольнасць, якая канструюецца праз базавую характарыстыку – самаідэнтыфікацыю. У гэтым сэнсе нас менш цікавіла, як гэтая супольнасць узнікла, фармавалася і відазмянялася цягам стагоддзяў. Асноўная даследчая ўвага надавалася таму, які сэнс мае прыналежнасць да гэтай супольнасці для тых, хто сябе да яе адносіць, з дапамогай якіх сацыяльных і культурных механізмаў яна ўзнаўляецца, чым вызначаецца цэласнасць і ўнутраная разнастайнасць.

Эмпірычная частка даследавання рэалізаваная праз мэтанакіраваны адбор і апытанне дарослага насельніцтва Беларусі, якое адносіць сябе да польскай нацыянальнасці. Апытанне праводзілася ў «месцах кампактнага пражывання» палякаў у Гродзенскай вобласці, у асобных населеных пунктах Брэсцкай, Віцебскай, Мінскай абласцей, якія характарызуюцца найбольшаю доляю прадстаўнікоў польскай нацыянальнасці, а таксама ў Мінску. Агульны аб'ём выбаркі, рэалізаванай у даследаванні, склаў 787 рэспандэнтаў.

На этапе адбору рэспандэнтаў выбарка будавалася метадам «снежнага кому» (snow-ball).[1] Апытанне праводзілася з выкарыстаннем метаду структураванага інтэрв'ю. Асноўныя блокі інтэрв'ю прысвячаліся стаўленню да польскай культуры, гісторыі, мовы і традыцыяў, выяўленню крытэраў ідэнтыфікацыі рэспандэнтаў з супольнасцю і ступені адпаведнасці розных тыпаў сацыяльнай самаідэнтыфікацыі рэлігійным і камунікатыўным практыкам. Адною з задачаў даследавання было выявіць сімвалічную ролю і месца мовы ў структуры этнічнай ідэнтычнасці беларускіх палякаў, а таксама прааналізаваць рэальныя моўныя практыкі як фактар захавання або трансфармацыі гэтай супольнасці.

## І. Моўная сітуацыя ў Беларусі і камунікатыўныя практыкі беларускіх палякаў

Моўнай сітуацыі ў Беларусі цягам доўгіх стагоддзяў уласцівае суіснаванне розных моўных супольнасцяў. Больш за тое, у розныя гістарычныя перыяды змяняліся не толькі арэалы

[1] Метад «снежнага кому» выкарыстоўваецца для пошуку цяжкадасягальных рэспандэнтаў. Адбор ажыццяўляецца наступным чынам: спачатку вызначаецца група рэспандэнтаў, падчас апытання якіх высвятляюцца адрасы іншых асобаў (знаёмых, сваякоў, сяброў, партнёраў – у гэтым выпадку нас цікавілі беларускія палякі), якіх таксама апытваюць. Працэдура паўтараецца – высвятляюцца адрасы трэціх асобаў і г. д. Выбарка фармуецца паступова, этап за этапам, падобна да таго, як лепяць снежны ком.

[2] Больш падрабязна пра моўную сітуацыю ў Беларусі ў розныя перыяды гл.: (Булыко и Крысин, 1999; Титаренко, 2009).

моваў, але і іх сацыяльныя пазіцыі[2] (толькі за апошнія два дзесяцігоддзі ў Беларусі двойчы радыкальна змянялася моўная палітыка). Для апісання камунікатыўных прастораў, у якіх аднолькава прысутнічаюць дзве і больш моваў, сацыяльныя навукі (перш за ўсё сацыялінгвістыка) напрацавалі шырокі катэгарыяльны апарат. У кантэксце аналізу моўнай сітуацыі ў Беларусі нас больш за ўсё цікавяць канцэпты *білінгвізму, шматмоўя* (*мультылінгвізму*) і *дыглясії*.

Паняцце дыглясіі ў навуковы абарот увёў у 1959 годзе Чарлз Фэргюсан (Ferguson, 1959). Ён ужываў яго для азначэння спецыфічных стасункаў паміж двума і больш варыянтамі аднай і той жа мовы, якія ўжываюцца пэўнаю супольнасцю. Найважнейшаю рысаю дыглясіі ёсць функцыянальная спецыялізацыя варыянтаў, калі ў залежнасці ад сацыяльнай сітуацыі індывід карыстаецца рознымі моўнымі стылямі або рознымі мовамі. Фэргюсан у сваёй працы адзначае функцыянальнае адрозненне дыглясіі ад білінгвізму: калі пры білінгвізме мовы функцыянальна раўнапраўныя, то ў выпадку дыглясіі адна з моваў лічыцца «высокаю» (high) і выкарыстоўваецца ў няпобытавых сферах і сітуацыях: рэлігія, кніжная культура, навука, адукацыя. Другая ж мова лічыцца «нізкаю» (low) – прынятай у паўсядзённых зносінах, зніжаных функцыянальных стылях і літаратурных жанрах.

Такім чынам, асноўнае адрозненне дыглясіі ад білінгвізму і мультылінгвізму палягае ў тым, што першая ўяўляе з сябе сацыяльную цэласнасць, калі кожная з моваў мае свае выразна акрэсленыя, фенаменалагічна санкцыянаваныя і шырока прызнаныя функцыі.

Юстына Страчук (Straczuk, 1999), якая выкарыстоўвала паняцце дыглясіі для апісання моўнай сітуацыі ў беларуска-польскім памежжы, адзначае, што ў выпадку дыглясіі вельмі важны выразны падзел функцыяў моваў: адна мова ўласцівая для афіцыйнай сферы, рэлігійнага жыцця, кантактаў з чужымі, на працы, іншая ж ужываецца ў прыватных кантактах, сямейных і паўсядзённых стасунках. Без падзелу функцыяў асобных моваў дыглясія знікае. Калі ў якой-небудзь сферы ўжываюцца дзве мовы, то раней або пазней перамагае мова, якая карыстаецца большым прэстыжам. Аднак функцыянальны падзел патрабуе цэласнай арганізацыі культуры, таму дыглясія часцей за ўсё сустракаецца ў свеце традыцыйнай культуры, бо ў сучасным свеце межы паміж рознымі сферамі жыцця паступова сціраюцца. У шматмоўных супольнасцях выбар мовы для выкарыстання ў канкрэтнай сітуацыі не выпадковы. Супольнасць вызначае зоны ўжывання асобных моваў і надае ім пэўную каштоўнасць – статус нізкай ці высокай, інтымнай ці афіцыйнай. Кожны з чальцоў шматмоўнай супольнасці з ранняга дзяцінства вучыцца не толькі адразу некалькім мовам, але і прынцыпам іх ужывання ў канкрэтных сітуацыях. Гэта патрабуе камунікатыўнай кампетэнцыі ды ведання правілаў карыстання рознымі мовамі ў залежнасці ад сацыяльнага кантэксту (Straczuk, 1999: 10–18).

Адзначым, што такая функцыяналізацыя стасункаў можа спрыяць сацыяльнай адаптацыі ў іншамоўным асяроддзі пры захаванні мовы этнічнай групы праз вылучэнне і замацаванне асаблівых сфераў яе выкарыстання.

Канцэпт дыгласіі дае магчымасць зафіксаваць спецыфіку развіцця моўнай сітуацыі ў Беларусі, асабліва ў апошнія гады. Першая важная ўласцівасць моўнай сітуацыі ў краіне – гэта досыць інтэнсіўнае змяненне (практычна бесперапыннае ў апошнія стагоддзі). Другая – наяўнасць дзвюх юрыдычна раўнапраўных моваў: рускай і беларускай. Трэцяя ўласцівасць – высокая ступень ідэалагічнай афарбаванасці індывідуальнага стаўлення або стаўлення розных сацыяльных групаў да розных кампанентаў моўнай сітуацыі ў Беларусі.

Такім чынам, мы паспрабуем разгледзець моўную сітуацыю ў Беларусі ў тэрмінах дыгласіі. Сітуацыя дыгласіі, акрамя нармаванай і сацыяльна абумоўленай розніцы ў выкарыстанні моваў у тых або іншых сацыяльных сітуацыях, прадугледжвае і розныя каналы трансляцыі: «нізкая» мова – гэта мова сям'і, суседства, найбліжэйшага асяроддзя, якая засвойваецца першай у працэсе сацыялізацыі; «высокая» мова транслюецца пераважна праз спецыяльныя сацыяльныя інстытуты (школа; магчыма, царква). Некаторыя даследнікі разглядаюць Беларусь у якасці класічнага прыкладу дыгласіі, маючы на ўвазе шырокае выкарыстанне «трасянкі» як мовы паўсядзённых зносінаў і замацаванне ўнармаванай рускай і беларускай моваў як моваў «высокіх», якія выкарыстоўваюцца ў афіцыйным дыскурсе, сродках масавай інфармацыі, літаратуры і г. д. У агульным выглядзе з такім варыянтам разгляду моўнай сітуацыі ў Беларусі можна было б пагадзіцца. Аднак пры больш дэталёвым аналізе такая дыгласія распадаецца на шэраг іншых, якія вызначаюць камунікацыю ў розных сацыякультурных групах і паміж імі.

У першую чаргу гэта тычыцца сітуацыі існавання дзвюх дзяржаўных моваў. Нягледзячы на тое што руская і беларуская мовы фармальна маюць роўны юрыдычны статус, яны моцна адрозніваюцца сферамі ды інтэнсіўнасцю ўжывання. Мы не будзем аналізаваць індывідуальныя моўныя практыкі, адзначым толькі, што беларуская мова на сённяшні момант практычна выключаная са сферы афіцыйнага справаводства (у тым ліку судаводства), навукі і адукацыі (дзе яна вывучаецца ў якасці аднаго з прадметаў, аднак атрыманне адукацыі ў сярэдняй і вышэйшай школе на беларускай мове робіцца ўсё менш рэалістычным). Такім чынам, асноўныя каналы трансляцыі «высокай мовы» ў маштабах краіны выкарыстоўваюць галоўным чынам рускую мову. Нават пры рэалізацыі заяўленых апошнім часам крокаў дзяржаўнай палітыкі для пашырэння сферы ўжывання беларускай мовы наўрад ці варта чакаць хуткіх і маштабных зменаў.

Пры гэтым для шэрагу сацыяльных і культурных групаў – перш за ўсё прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння, палітычнай апазіцыі, культурнага андэграўнду – у якасці «высокай» мовы выступае беларуская, у той

час як руская не прымаецца з ідэалагічных, культурна-гістарычных або эстэтычных прычынаў. Цягам усяго перыяду станаўлення незалежнай Беларусі назіраецца досыць выразнае супрацьстаянне вакол праблемы нацыянальнай мовы, радыкальнасць якога пачала зніжацца толькі ў апошнія гады. Дадатковая лінія дэмаркацыі звязаная з існаваннем і прызнаннем рознымі сацыяльнымі суб'ектамі розных варыянтаў беларускай мовы: так званых «тарашкевіцы» і «наркамаўкі»[3], кожная з якіх для асобных сацыяльных групаў выступае ў якасці «высокай».

Паўсюднае выкарыстанне лакальных дыялектаў («трасянкі») таксама пачынае асэнсоўвацца і пераацэньвацца ў культуры Беларусі. «Трасянка» выступае аб'ектам даследаванняў і культурнай стылізацыі, а яе культурная роля і функцыі пераасэнсоўваюцца, у тым ліку – са зменаю «знака» ў сімвалічным статусе: ад «напаўпісьменнай», побытавай мовы, якая мае нізкі сацыяльны прэстыж, да «жывой мовы», якая захоўвае «таямніцы беларускасці».[4]

Яшчэ адною функцыянальнаю сфераю замацавання «высокай» мовы ў розных грамадствах і культурах выступае рэлігія. Але і ў гэтай сферы, адной з самых кансерватыўных у сэнсе сацыяльнай і моўнай дынамікі, Беларусь перажывае эпоху трансфармацыяў. Беларусь – поліканфесійная краіна з перавагаю хрысціянскіх плыняў: праваслаўя, каталіцызму і розных кірункаў пратэстантызму. Разам са змяненнямі ўзроўню і характарыстыкаў рэлігійнасці жыхароў краіны, у апошнія гады адбываюцца змены і ў моўных аспектах рэлігійнай практыкі цэркваў. Найбольш «устойлівая» да ўплыву часу ў гэтым сэнсе Праваслаўная Царква: абсалютная большасць набажэнстваў у Праваслаўнай

[3] На сённяшні дзень існуюць некалькі варыянтаў правапісу літаратурнай беларускай мовы. Той, які вывучаецца ў школах і ВНУ, заснаваны на правілах, вызначаных пастановаю Савета міністраў БССР ад 1957 года. Пазначаная пастанова змяніла правілы, замацаваныя ў 1933 годзе пастановаю Савета народных камісараў БССР, якая, у сваю чаргу, адмяніла на савецкай тэрыторыі нормы «Беларускай граматыкі для школ», выдадзенай Браніславам Тарашкевічам у Вільні ў 1918 годзе. Прыняты пастановаю Саўнаркама варыянт атрымаў назву «наркамаўкі», а першапачатковы варыянт – «тарашкевіцы» або «класічнага правапісу». У 1980-я гады, з пачаткам адраджэння беларускай культуры ў БССР, да «тарашкевіцы» звярнуліся андэграўндныя і некаторыя апазіцыйныя выданні. З гэтага часу ідзе «паралельная» праца для рэфармавання гэтых двух варыянтаў правапісу. У 1993 годзе Савет міністраў стварыў Дзяржаўную камісію для ўдакладнення правапісу на чале з Нілам Гілевічам, але ўжо праз год яна спыніла сваё існаванне. Акадэмія навук і Міністэрства адукацыі атрымалі даручэнне «*да канца 1995 года падрыхтаваць да выдання новую рэдакцыю 'Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі' з прыкладаннем правілаў беларускай арфаэпіі*». Толькі ў 2003 годзе група навукоўцаў Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі на чале з дырэктарам Аляксандрам Падлужным падрыхтавала праект. Ён не быў апублікаваны, застаўся здабыткам толькі экспертнай супольнасці і не быў зацверджаны, але асобныя яго элементы пачалі выкарыстоўвацца адным з урада-

Царкве (да якой адносіць сябе большасць беларусаў) вядзецца на стараславянскай мове, якую можна лічыць «высокай» для гэтай канфесійнай групы (адзначым, што сфера яе ўжывання жорстка абмежаваная навучаннем святароў і набажэнствамі). Да нядаўняга часу Каталіцкі Касцёл быў інстытутам трансляцыі польскай мовы, аднак у апошнія гады службы ў касцёлах усё часцей ідуць па-беларуску, хоць польская і лаціна захоўваюць свае пазіцыі. Улічваючы, што пераход культавых практыкаў на нацыянальныя мовы ёсць прынцыпам унутранай палітыкі Касцёлу, можна чакаць, што польская мова з гэтай сферы будзе пастунова выціскацца. Пратэстанцкія цэрквы выкарыстоўваюць у якасці мовы набажэнстваў і царкоўных зносінаў пераважна рускую або беларускую мовы.[5]

Такім чынам, моўная сітуацыя ў Беларусі адрозніваецца не толькі разнастайнасцю прысутных у ёй моваў і дыялектаў, але і дыферэнцыяцыяй розных сацыяльных групаў і суб'ектаў паводле крытэру стаўлення да моўнага пытання. Для большасці насельніцтва стаўленне да моўных працэсаў ды індывідуальная матывацыя для выкарыстання мовы вызначаецца практычным стаўленнем, і ў існай сітуацыі ўжытку моваў у розных сферах такі выбар амаль аўтаматычна робіцца на карысць рускай. Гэта пацвярджае і статыстыка: паводле вынікаў перапісу насельніцтва 2009 года, каля 70 % жыхароў Беларусі ў якасці асноўнай гутарковай (мова, на якой размаўляюць дома) назвалі рускую (Национальный статистический комитет).

Аднак для некаторых сацыяльных групаў пытанне статуса і ўжытку мовы абумоўленае прагматыкай іншага кшталту, і менавіта супрацьстаянне і камунікацыя паміж гэтымі групамі задаюць праблемнае поле, у якім моўнае пытанне робіцца адным з аспектаў развязання праблемаў самавызначэння Беларусі як незалежнай

вых выданняў – газетаю «Звязда». Праца над праектам зменаў працягвалася і ўсе наступныя гады, і 1 верасня 2010-га набылі моц «Новыя правілы арфаграфіі і пунктуацыі». У той жа час прадстаўнікі грамадскасці шырока абмяркоўвалі варыянты сучаснай нармалізацыі «тарашкевіцы», і ў 2005 годзе працоўная група ў складзе Юрася Бушлякова, Вінцука Вячоркі, Змітра Санько і Змітра Саўкі прэзентавала ў якасці выніку сваёй дзейнасці кнігу «Беларускі клясычны правапіс: Збор правілаў: Сучасная нармалізацыя». Гэты варыянт правапісу пачалі выкарыстоўваць газета «Наша ніва», часопіс ARCHE, беларуская рэдакцыя радыё «Свабода» і некаторыя іншыя СМІ.

4 Адным з самых яркіх прыкладаў культурнай стылізацыі ў гэтым сэнсе можна назваць музычны праект «Народны альбом», а ў якасці аднаго з найбольш паказальных апошніх матэрыялаў на гэтую тэму – праведзеную экспертнаю супольнасцю «Наше мнение» дыскусію «Трасянка: паміжжа культур ці таемная беларускасць?» (Бабкоў ды інш., 2010).

5 Парадаксальна, але адзіныя рэлігійныя групы, для якіх беларуская мова ёсць інстытуцыйна замацаванай у якасці «высокай» (у дыглосных адносінах), – гэта беларускія каталікі і пратэстанты асобных кірункаў.

дзяржавы, фармавання беларускай нацыі ды геапалітычнага выбару Беларусі.

Мы так падрабязна спыняемся на сацыяльна-палітычных і культурных аспектах моўнай сітуацыі ў Беларусі, каб акрэсліць поле, у якім разгортваюцца і трансфармуюцца моўныя практыкі беларускіх палякаў. Як жыхары і як грамадзяне Беларусі, беларускія палякі ўключаныя ў актуальныя сацыяльныя і палітычныя працэсы, што не можа не накладваць адбітку і на трансфармацыі асноваў ды зместу этнічнай ідэнтычнасці.

Аналізуючы моўныя практыкі беларускіх палякаў, трэба ўлічваць розныя ракурсы разгляду: актуальны стан і перспектывы развіцця гэтых практыкаў, сімвалічную і аксіялагічную ролю мовы як складніка этнічнай ідэнтычнасці, функцыянальную спецыялізацыю выкарыстання розных лінгвістычных сістэмаў.

## II. Выбар роднай мовы ды ідэнтыфікацыя

Менавіта родная мова традыцыйна лічыцца самым магутным фактарам, які ўплывае на этнічную самасвядомасць і фармуе яе. Аднак варта звярнуць увагу на тое, што сам тэрмін *родная мова* шматзначны. Можна вылучыць як мінімум тры найбольш распаўсюджаныя трактоўкі гэтага тэрміна:

1. Родная мова як мова этнічнай самаідэнтыфікацыі – мова этнічнай/нацыянальнай супольнасці, да якой адносіць сябе чалавек, якая злучае яго з папярэднімі пакаленнямі, іх культурай і гісторыяй.
2. Мова, засвоеная ў дзяцінстве, – яе чалавек засвойвае ў раннім дзяцінстве без спецыяльнага навучання, жывучы ў адпаведным моўным асяроддзі.
3. Функцыянальна першая мова – на ёй чалавек думае без дадатковага самакантролю, з дапамогай яе ён лёгка выказвае свае думкі ў пісьмовай і вуснай форме.

Аднак гэта тэарэтычныя фармулёўкі, якія выкарыстоўваюцца ў навуковай літаратуры, дзе яны кожны раз удакладняюцца і тлумачацца. Спектр сэнсаў, якія звычайныя людзі ўкладаюць у паняцце роднай мовы, значна больш шырокі. Мы мяркуем, што для беларускіх палякаў, якія бралі ўдзел у даследаванні, выбар мовы ў якасці роднай не столькі абапіраецца на аскрыптыўныя (зададзеныя грамадствам і асяроддзем) фактары і характарыстыкі, колькі ёсць свядомым выбарам, які ў рознай ступені адлюстроўвае сацыякультурную ідэнтыфікацыю. Тым не менш, адказ на гэтае пытанне можа вызначацца рознымі ўмовамі ды інтэнцыямі. Ёсць падставы меркаваць, што выбар той або іншай мовы ў якасці роднай у межах даследавання можа значыць:

1. Этнічную ідэнтыфікацыю (*«паляк паводле нацыянальнасці – значыць, родная мова польская»*);
2. Першую засвоеную ў дзяцінстве мову;
3. Сямейную традыцыю (*«у сям'і лічаць роднай ...»*) або

камунікатыўныя практыкі ў сям'і (*«у сям'і гавораць на ...»*);

4. Функцыянальна першую мову (*«прасцей за ўсё казаць і думаць на ...»*) або рэальную моўную практыку (*«часцей за ўсё кажу на ...»*);

5. Сацыякультурны выбар – свядомае далучэнне сябе да пэўнай культуры і традыцыі ды ў гэтым сэнсе – да мовы незалежна ад рэальнай моўнай практыкі.

Інфармацыя, атрыманая ў ходзе апытання, не дазваляе з дастатковаю ступенню ўпэўненасці фіксаваць, на чым менавіта заснаваны выбар рэспандэнтаў у кожным канкрэтным выпадку. Мы можам толькі крыху паразважаць на гэтую тэму, абапіраючыся на эмпірычныя вынікі даследавання.

Каля траціны апытаных беларускіх палякаў выбралі ў якасці роднай мовы беларускую і практычна столькі ж – рускую (табліца 1). Група «польскамоўных» амаль у два разы меншая за кожную з дзвюх вышэйназваных – у якасці роднай польскую называюць толькі 17,7 % апытаных. Асаблівую цікавасць – нягледзячы на іх параўнальную маралікасць – уяўляюць з сябе групы, якія абралі пры адказе на пытанне пра родную мову варыянты «іншая» і «цяжка адказаць адназначна». Як паказвае аналіз, у якасці «іншай» мовы часцей за ўсё называецца «трасянка» або спалучэнне моваў: беларуская і польская, руская і польская. Група тых, хто не змог адназначна вызначыцца з выбарам мовы, падаецца цікавай у тым сэнсе, што такога роду «цяжкасці» могуць сведчыць пра рэфлексіўнае стаўленне да вызначэння роднай мовы ва ўмовах «памежнай» нацыянальнай або этнічнай ідэнтычнасці (праўда, іх могуць выклікаць і дыяметральна процілеглыя прычыны: невысокая значнасць і слабае асэнсаванне гэтага пытання).

Параўнаем вынікі даследавання з інфармацыяй, атрыманай у ходзе перапісаў насельніцтва (табліца 2). Паводле апошняга перапісу доля палякаў, якія выбралі польскую мову ў якасці роднай, значна меншая, чым паводле нашага даследавання.

**Табліца 1. Выбар роднай мовы**[6]

| **Якую мову Вы лічыце сваёй роднай?** | **Колькасць** | **%** |
|---|---|---|
| Беларускую | 252 | 32,2 |
| Польскую | 138 | 17,7 |
| Рускую | 269 | 34,4 |
| Іншую | 52 | 6,7 |
| Цяжка адказаць адназначна | 70 | 9,0 |
| **Разам** | **781** | **100,0** |

6 Тут і далей разлік адсоткаў (%) ідзе ад колькасці рэспандэнтаў, якія адказалі на гэтае пытанне.

Адначасова звесткі 2009 года істотна адрозніваюцца і ад папярэдніх перапісаў. З вялікаю доляй упэўненасці можна меркаваць, што гэта звязана са зменаю фармулёўкі пытання ў перапісным лісце. Паняцце «родная мова» ўдакладнялася як «*мова, засвоеная першай у раннім дзяцінстве*». Гэтая фармулёўка істотна паўплывала на выніку. Пры гэтым звесткі за 1999 год, калі пытанне пра родную мову ставілася без дадатковага тлумачэння, блізкія да тых, што мы атрымалі ў ходзе сацыялагічнага даследавання.

Паспрабуем прааналізаваць сувязь паміж выбарам роднай мовы і яе ўжываннем. З улікам неаднастайнасці камунікатыўных практыкаў беларускіх палякаў у даследаванні фіксавалася пераважнае выкарыстанне той або іншай мовы ў розных сферах: дома, на працы, у коле сяброў, у грамадскіх месцах. Акрамя таго, асобна фіксавалася, на якой мове рэспандэнт «часцей за ўсё думае», што дае ўяўленне пра найбольш «блізкую», «натуральна ўжываную» або, карыстаючыся прынятаю тэрміналогіяй, «функцыянальна першую» мову.

Зыходзячы з уяўлення пра тую мову, на якой чалавек «думае», як пра найбольш «натуральную», адзначым, што выбар роднай мовы, звязаны з гэтым тыпам моўнай практыкі, даволі неадназначны. Калі для рэспандэнтаў, якія назвалі роднаю моваю рускую, у абсалютнай большасці выпадкаў яна ж ёсць і найбольш натуральнай у выкарыстанні, то выбар польскай і беларускай у якасці

**Табліца 2. Дынаміка колькасці беларускіх палякаў і выбару імі роднай мовы (паводле перапісаў насельніцтва)**

| | Год перапісу | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1979 | 1989 | 1999 | 2009 |
| Насельніцтва Беларусі (тыс. чалавек) | 9532 | 10152 | 10045 | 9504 |
| Колькасць палякаў (тыс. чалавек) | 403 | 418 | 396 | 295 |
| Доля палякаў у насельніцтве | 4,2 % | 4,1 % | 3,9 % | 3,1% |
| Доля палякаў, якія назвалі роднаю польскую | 7,8 % | 13,3 % | 16,5 % | 5,4 % |
| Доля палякаў, якія назвалі роднаю беларускую | 74,0 % | 63,9 % | 67,1 % | 58,2 % |
| Доля палякаў, якія назвалі роднаю рускую | 18,1 % | 22,6 % | 16,2 % | 33,9 % |

*Крыніцы*:

Звесткі за 1979, 1989, 1999 гады прыводзяцца паводле: Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі (2001).

Звесткі за 2009 год – Нацыянальны статыстычны камітэт Рэспублікі Беларусь. Перапіс насельніцтва Рэспублікі Беларусь 2009 года. Выхадныя рэгламентныя табліцы. Табліца 5.8. Насельніцтва паводле нацыянальнасці і роднай мовы. URL (доступ 2011/02/14) http://belstat.gov.by/homep/ru/perepic/2009/vihod_tables/5.8-0.pdf

роднай не падмацаваны такой адназначнаю сувяззю (табліца 3). Сярод тых, хто абраў у якасці роднай мовы беларускую, толькі крыху больш за палову (58,3 %) рэспандэнтаў адзначаюць беларускую ў якасці «функцыянальна першай» мовы, для польскай мовы ступень «унутранай гармоніі» яшчэ ніжэйшая (38,4 %). Напрошваецца выснова пра нераўнамернасць крытэраў выбару роднай мовы: калі для тых беларускіх палякаў, якія ў якасці роднай выбіраюць рускую, гэты выбар, хутчэй за ўсё, звязаны

**Табліца 3. Сувязь паміж тым, якую мову рэспандэнт выбірае ў якасці роднай, і функцыянальна першаю мовай (%)**

| **На якой мове Вы часцей за ўсё думаеце?** | **Якую мову Вы лічыце сваёй роднай?** | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларускую | Польскую | Рускую | Іншую | Цяжка адказаць адназначна |
| Беларуская | 58,3 | 11,6 | 0,7 | 13,5 | 8,8 |
| Польская | 4,4 | 38,4 | 2,2 | 11,5 | 4,4 |
| Руская | 32,9 | 44,9 | 96,7 | 53,8 | 86,8 |
| Іншая | 4,4 | 5,1 | 0,4 | 21,2 | 0 |
| **Разам** | **100** | **100** | **100** | **100** | **100** |

**Табліца 4. Значэнне супольнай мовы і самаідэнтыфікацыя**

| **Якую мову Вы лічыце сваёй роднай?** | **Што Вас аб'ядноўвае з людзьмі Вашай нацыянальнасці – варыянт «агульнасць мовы»[7]** | **У якой ступені наступныя словы апісваюць Вас – варыянт «беларус»[8]** |
|---|---|---|
| Беларускую | 3,6 | 0,47 |
| Польскую | 4,49 | 0,07 |
| Рускую | 3,34 | 0,23 |

7 У пытанні выкарыстоўвалася пяцібальная шкала, дзе адзін – «зусім не аб'ядноўвае», а пяць – «аб'ядноўвае ў максімальнай ступені». У табліцы прадстаўленыя сярэднія балы па групах.

8 У табліцы прыведзеныя індэксы кантрастнасці для пералічаных групаў. Індэкс кантрастнасці ў гэтым выпадку разлічваўся паводле формулы: (a+0,5*b-0,5*c-d+0*e)/N, дзе: a – колькасць рэспандэнтаў, якія адказалі «*Гэта сапраўды пра мяне*» на пытанне ***«У якой ступені наступныя словы апісваюць Вас?»***, b – колькасць рэспандэнтаў, якія адказалі *«Гэта амаль пра мяне»*, c – колькасць рэспандэнтаў, што адказалі *«Гэта хутчэй не пра мяне»*, d – колькасць, рэспандэнтаў, якія адказалі «Гэта зусім не пра мяне», e – колькасць рэспандэнтаў, што не змаглі адказаць на пытанне, N – аб'ём выбаркі (або падвыбаркі). Значэнні індэкса палягаюць у межах [-1;1].

менавіта з яе ўкарэненасцю ў рэальныя моўныя практыкі (або, прынамсі, не супярэчыць ёй), то выбар у якасці роднай беларускай і польскай моваў мае відавочна больш шырокі спектр матывацыі.

Можна выказаць здагадку: выбар польскай мовы ў якасці роднай у значнай ступені звязаны са значэннем яе для рэспандэнтаў як фактару, што аб'ядноўвае этнічную групу, дае пачуццё індывідуальнай прыналежнасці. Пра гэта сведчыць і аналіз адказаў на пытанне *«Што асабіста Вас у найбольшай ступені аб'ядноўвае з людзьмі Вашай нацыянальнасці?»*. У якасці аднаго з аб'яднаўчых фактараў рэспандэнтам прапаноўвалася ацаніць "агульнасць мовы". Для тых, хто назваў у якасці роднай мовы польскую, выяўленасць гэтага фактару блізкая да максімальнай (табліца 4).

Што тычыцца выбару беларускай мовы ў якасці роднай, то тут да месца ўспомніць пра працэсы асіміляцыі, характэрныя для беларуска-польскага памежжа. Івона Кабзіньска разглядае моўную асіміляцыю сярод беларускіх палякаў як пачатак асіміляцыі і ў іншых аспектах, у тым ліку нацыянальным (Kabzińska, 1999:53). Цяжка адназначна казаць пра тое, што ў гэтым выпадку першаснае, а што другаснае, але нашае даследаванне паказвае, што выяўленасць «беларускай» самаідэнтыфікацыі сярод тых беларускіх палякаў, якія назвалі роднаю беларускую мову, у значнай ступені перавышае гэты паказнік для іншых групаў (табліца 4).

Несумненна, ніводзін з пералічаных фактараў не выступае вырашальным пры вызначэнні роднай мовы. У кожным індывідуальным выпадку гэты выбар можа ажыццяўляцца нерэфлексіўна, на аснове тых або іншых «аб'ектыўных» перадумоваў, ці быць вынікам складанага спалучэння вонкавых фактараў і суб'ектыўных установак. Пакуль жа мы можам толькі адзначыць, што выбар роднай мовы сведчыць пра неаднастайнасць супольнасці беларускіх палякаў, і выказаць здагадку, што гэты выбар звязаны з іншымі аспектамі этнічнай ідэнтычнасці ды рэальнымі сацыяльнымі і культурнымі практыкамі, у якіх яна рэалізуецца.

**Табліца 5. Сярэдні ўзрост групаў, сфармаваных на падставе выбару роднай мовы**

| Якую мову Вы лічыце сваёй роднай? | Сярэдні ўзрост |
|---|---|
| Беларускую | 42,36 |
| Польскую | 47,52 |
| Рускую | 35,02 |
| Іншую | 42,38 |
| Цяжка адказаць адназначна | 37,34 |

## III. Выбар роднай мовы і сацыяльная структура

Істотным аспектам аналізу роднай мовы беларускіх палякаў ёсць выяўленне сацыяльна-дэмаграфічных параметраў, якія вызначаюць выбар мовы. Гэта дазваляе не толькі зафіксаваць існы стан, але і ацаніць перспектывы развіцця супольнасці. Пры аналізе статыстычна значныя адрозненні зафіксаваныя ў такіх параметрах, як адукацыя, узрост і тып населенага пункту. Для спрашчэння ўспрымання тэксту тут і далей мы будзем ужываць тэрміны «польскамоўныя», «рускамоўныя» і г. д., маючы на ўвазе менавіта выбар роднай мовы, а не рэальныя моўныя практыкі.

Група апытаных, якія выбралі польскую мову ў якасці роднай, маюць у параўнанні з астатнімі больш высокі ўзровень адукацыі. Найменш адукаванымі аказаліся тыя, хто абраў беларускую мову. «Рускамоўныя» часцей за іншых маюць сярэднюю спецыяльную адукацыю.

У аспекце аналізу тыпу пасялення тыя, хто назваў роднаю рускую мову, належаць у большасці сваёй да гарадскіх жыхароў (73,6 %). Сярод тых, хто лічыць роднаю беларускую і польскую мовы, больш за 40 % жывуць у сельскай мясцовасці. Паводле ўзроставых характарыстыкаў група тых, хто абраў у якасці роднай польскую мову, старэйшая за астатніх. Самаю маладою кагортаю аказаліся «рускамоўныя» (табліца 5).

Такім чынам, групы беларускіх палякаў, якія ажыццявілі сімвалічны выбар роднай мовы на карысць польскай і беларускай, досыць блізкія паміж сабой у плане сацыяльна-дэмаграфічных параметраў (за выключэннем узроўню адукацыі). Калі казаць ўмоўна, гэта «старэйшае пакаленне» беларускіх палякаў, якое пераважна жыве на вёсцы, больш адукаваная частка якога вызначае ў якасці роднай польскую мову, а менш адукаваная – беларускую.

Апытаныя, якія абралі ў якасці роднай рускую мову, – гэта прадстаўнікі маладога гарадскога пакалення. Гэтыя намінацыі дастаткова

**Табліца 6. Ступень выразнасці цікавасці да гісторыі Польшчы (%)**

| **Ці цікавіцеся Вы гісторыяй Польшчы?** | **Якую мову Вы лічыце сваёй роднай?** | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларускую | Польскую | Рускую | Іншую | Цяжка адказаць адназначна |
| Так | 17,7 | 45,3 | 12,4 | 16,0 | 10,6 |
| Хутчэй так | 37,3 | 42,3 | 29,3 | 38,0 | 31,8 |
| Хутчэй не | 37,8 | 8,8 | 44,4 | 38,0 | 40,9 |
| Не | 7,2 | 3,6 | 13,9 | 8,0 | 16,7 |
| **Разам** | **100** | **100** | **100** | **100** | **100** |

**Табліца 7. Ступень адчування адзінства з палякамі, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі (%)**

| Ці адчуваеце Вы сваё адзінства, агульнасць з палякамі, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі? | Якую мову Вы лічыце сваёй роднай? | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларускую | Польскую | Рускую | Іншую | Цяжка адказаць адназначна |
| Так | 26,2 | 58,7 | 28,6 | 26,0 | 14,3 |
| Хутчэй так | 36,5 | 23,2 | 25,7 | 26,0 | 20,0 |
| Хутчэй не | 20,6 | 15,2 | 29,7 | 32,0 | 42,9 |
| Не | 4,0 | 0,7 | 11,9 | 10,0 | 11,4 |
| Цяжка адказаць | 12,7 | 2,2 | 4,1 | 6,0 | 11,4 |
| **Разам** | **100** | **100** | **100** | **100** | **100** |

**Табліца 8. Наяўнасць сваякоў, сяброў, якія жывуць на тэрыторыі Польшчы (%)**

| Ці ёсць у Вас сваякі, блізкія сябры, якія жывуць на тэрыторыі Польшчы? | Якую мову Вы лічыце сваёй роднай? | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларускую | Польскую | Рускую | Іншую | Цяжка адказаць адназначна |
| Так | 71,8 | 90,6 | 68,4 | 82,7 | 47,1 |
| Не | 28,2 | 9,4 | 31,6 | 17,3 | 52,9 |
| **Разам** | **100** | **100** | **100** | **100** | **100** |

**Табліца 9. Стаўленне да беларускага грамадзянства ў розных групах (%)**

| Я ганаруся тым, што я грамадзянін Беларусі | Якую мову Вы лічыце сваёй роднай? | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларускую | Польскую | Рускую | Іншую | Цяжка адказаць адназначна |
| 1 – зусім не згодны | 0,8 | 3,7 | 6,0 | – | – |
| 2 | 5,9 | 9,0 | 5,3 | 2,9 | 23,5 |
| 3 | 15,6 | 23,1 | 24,1 | 11,4 | 32,4 |
| 4 | 32,1 | 33,6 | 26,6 | 51,4 | 29,4 |
| 5 – абсалютна згодны | 45,6 | 30,6 | 38,0 | 34,3 | 14,7 |
| **Разам** | **100** | **100** | **100** | **100** | **100** |

ўмоўныя, бо як сярод маладых гараджанаў ёсць «польскамоўныя» і «беларускамоўныя», так і сярод сталых вяскоўцаў досыць тых, хто лічыць рускую роднаю мовай. Тым не менш, пазначаная тэндэнцыя можа мець істотнае значэнне для прагназавання моўных працэсаў у супольнасці беларускіх палякаў. Паспрабуем прааналізаваць, як звязаны выбар роднай мовы з іншымі праявамі прыналежнасці да этнічнай супольнасці.

## IV. Выбар роднай мовы і прыналежнасць да супольнасці

«Польскамоўныя» рэспандэнты праяўляюць самую высокую цікавасць да гісторыі Польшчы. Найменшую цікавасць да гэтай тэмы выказалі тыя, хто абраў у якасці роднай рускую мову, а таксама тыя, хто не змог вызначыцца з выбарам (табліца 6).

Выбар роднай мовы цесна звязаны з наяўнасцю ў рэспандэнтаў пачуцця агульнасці з палякамі, якія жывуць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Гэтак, людзі, што абралі польскую мову ў якасці роднай, дэманструюць больш высокую ступень суб'ектыўнага ўсведамлення сваёй уключанасці ў супольнасць беларускіх палякаў. Найменш уключанымі аказаліся «рускамоўныя» і тыя, хто не змог зрабіць выбару (табліца 7).

«Польскамоўныя» таксама маюць больш шырокія родносныя і сяброўскія сувязі з палякамі, якія жывуць у Польшчы (табліца 8). Адзначым таксама, што яны значна часцей падтрымліваюць гэтыя стасункі, гэта значыць сустракаюцца са сваімі сябрамі і сваякамі за мяжою.

Такім чынам, рэспандэнты, якія назвалі ў якасці роднай мовы польскую, дэманструюць як большую ступень уключанасці ў мясцовую польскую супольнасць, так і больш цесныя сувязі з палякамі Польшчы. Можна сказаць, што прадстаўнікі гэтай групы ў найбольшай ступені далучаныя да польскай культуры і патэнцыйна могуць яе замацоўваць і трансляваць у Беларусі, а таксама ў большай ступені лічаць неабходным выхаванне дзяцей у адпаведным культурным кантэксце. Гэта праяўляецца на ўзроўні як установак, так і практыкаў, у прыватнасці праз больш актыўны ўдзел у параўнанні з іншымі групамі ўдзел у дзейнасці розных нацыянальна-культурных і грамадскіх аб'яднанняў.

Рэспандэнты, якія не змаглі вызначыць роднай мовы, маюць значна менш сувязяў з Польшчаю. І нават тыя «рускамоўныя», што маюць знаёмствы, значна радзей іх падтрымліваюць. Пры гэтым жаданне мець магчымасць часцей выязджаць у Польшчу «рускамоўныя» выказваюць дастаткова відавочна, аднак цяжка казаць з упэўненасцю, наколькі гэтае імкненне выклікана жаданнем далучыцца да польскай культуры і яе каштоўнасцяў.

Выяўленыя таксама статыстычна значныя адрозненні ў стаўленні да Беларусі. У гэтым аспекце мы вылучаем два моманты: стаўленне да беларускага грамадзянства і да Беларусі як краіны жыхарства. Гэтак, гонар за сваё беларускае грамадзянства

**Табліца 10. Ацэнка блізкасці беларускай і польскай культураў (%)**

| Як Вы лічыце, наколькі блізкія беларуская і польская культуры? | Якую мову Вы лічыце сваёй роднай? | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларускую | Польскую | Рускую | Іншую | Цяжка адказаць адназначна |
| Вельмі блізкія | 30,0 | 44,7 | 24,6 | 25,0 | 17,1 |
| Досыць блізкія | 62,3 | 44,5 | 62,3 | 65,4 | 58,6 |
| Досыць далёкія адна ад адной | 3,7 | 3,6 | 4,5 | 3,8 | 10,0 |
| Гэта зусім розныя культуры, нічога агульнага | 1,6 | 3,6 | 4,1 | 0 | 2,9 |
| Цяжка адказаць | 2,4 | 3,6 | 4,5 | 5,8 | 11,4 |
| **Разам** | **100** | **100** | **100** | **100** | **100** |

адчуваюць у большай ступені рэспандэнты, якія выбралі беларускую і рускую мовы ў якасці роднай (табліца 9). Найменш пазітыўнае стаўленне да беларускага грамадзянства выказваюць рэспандэнты, якія не далі адназначнага адказу (з пункту гледжання сацыяльна-дэмаграфічных характарыстыкаў гэта людзі досыць высокаадукаваныя, якія жывуць пераважна ў горадзе, сярэдні ўзрост групы – 37 гадоў). Прычым мы не выявілі ў гэтай групы высокага ўзроўню далучанасці да польскай культуры.

Гэтую ж асаблівасць мы фіксуем і ў дачыненні да Беларусі як месца жыхарства. Адчуваюць гонар за краіну пераважна рэспандэнты, якія выбралі ў якасці роднай мовы беларускую і рускую. Адпаведна, «выключанымі» аказаліся тыя, хто не змог адназначна адказаць на гэтае пытанне.

Такім чынам, найбольш далучаныя да польскай культуры і польскай супольнасці «польскамоўныя», найменш – «рускамоўныя». «Беларускамоўныя», з аднаго боку, дастаткова моцна ўключаныя ў польскую супольнасць, але пры гэтым больш за іншых адчуваюць гонар за сваю грамадзянскую прыналежнасць. «Рускамоўныя» адчуваюць высокую прывязанасць і гонар за Беларусь, адначасова будучы ў значнай ступені выключанымі з «польскасці». Асаблівую групу складаюць беларускія палякі, якія не змаглі вызначыцца ў выбары роднай мовы, бо яны ў найменшай ступені ўсведамляюць як уключанасць у супольнасць беларускіх палякаў, так і прыязнасць да Беларусі. Можна выказаць здагадку, што для гэтай групы характэрнае дастаткова індыферэнтнае (або крытычнае) стаўленне як да ўласнай этнічнай, так і да грамадзянскай ды тэрытарыяльнай прыналежнасці.

Яшчэ адзін цікавы аспект адрозненняў звязаны з ацэнкаю блізкасці беларускай і польскай культураў.[9]

[9] Цікава, а як бы ацанілі беларусы ступень блізкасці беларускай і польскай культураў?

Нягледзячы на тое што абсалютная большасць беларускіх палякаў адзначае блізкасць беларускай і польскай культураў, ацэнка ступені гэтай блізкасці адрозніваецца. Найбольш інтэнсіўна гэтая блізкасць адчуваецца тымі, хто называе ў якасці роднай мовы польскую, а вось «рускамоўныя» палякі больш крытычна ставяцца да гэтай блізкасці. Даволі «далёкімі» адна ад адной лічаць гэтыя дзве культуры толькі рэспандэнты, якія не вызначыліся ў выбары роднай мовы (табліца 10). Адным з ускосных фактараў тут служыць тып населенага пункту – гараджане (іх, як мы памятаем, значна больш сярод «рускамоўных» і «нявызначаных»), якія жывуць ва ўмовах большай культурнай і сацыяльнай разнастайнасці, маюць больш магчымасцяў для параўнання і падставаў для рэфлексіі культурных адрозненняў, чым жыхары вёскі.

Такім чынам, супольнасць беларускіх палякаў даволі моцна дыферэнцыяваная – як у выбары роднай мовы, так і ў тым, што датычыць сувязі гэтага выбару з іншымі аспектамі этнічнай ідэнтычнасці. З досыць вялікаю доляй упэўненасці можна казаць пра тое, што польская мова не выступае асноўным фактарам фармавання ідэнтычнасці беларускіх палякаў. Пра гэта сведчыць і параўнальна малая доля беларускіх палякаў, якія выбіраюць польскую мову ў якасці роднай, і далёка не першаснае значэнне супольнай мовы як падставы для этнанацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Больш за тое, сацыяльна-дэмаграфічныя характарыстыкі групы, якая выбірае польскую мову хаця б на сімвалічным узроўні, паказваюць, што гэтая група мае тэндэнцыю да памяншэння – з аднаго боку, за кошт натуральнага змяншэння, з іншага – за кошт міграцыйных працэсаў. Гэтыя тэндэнцыі фіксаваліся і раней. Івона Кабзіньска адзначае, што, згодна з матэрыяламі яе даследаванняў, прыхільнікамі сцвярджэння, што «палякам ёсць той, хто гаворыць па-польску», былі пераважна суразмоўцы старэйшага ўзросту (незалежна ад ступені ўласных ведаў польскай мовы), прадстаўнікі ж малодшага і сярэдняга пакалення абгрунтоўвалі сваю ідэнтыфікацыю з польскаю нацыянальнасцю без ведання мовы (Kabzińska, 1999: 51).

**Табліца 11. Распаўсюджванне ў Рэспубліцы Беларусь беларускай і рускай моваў (%)**

| | **Выбар у якасці роднай мовы** | | **Мовы, на якой звычайна размаўляюць дома** | | **Іншай мовы, якой вольна валодаюць** | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Беларуская | Руская | Беларуская | Руская | Беларуская | Руская |
| Усё насельніцтва | 53,2 | 41,5 | 23,4 | 70,2 | 13,5 | 13,7 |
| Беларусы | 60,8 | 37,0 | 26,1 | 69,8 | 12,7 | 15,2 |
| Палякі | 58,2 | 33,9 | 40,9 | 50,9 | 15,1 | 24,4 |

*Крыніца*: Национальный статистический комитет.

**Малюнак 1. Інтэнсіўнасць выкарыстання моваў у розных сферах, % (функцыянальна першая мова – беларуская)**




**Малюнак 2. Інтэнсіўнасць выкарыстання моваў у асноўных сферах, % (функцыянальна першая мова – руская)**



**Малюнак 3. Інтэнсіўнасць выкарыстання моваў у розных сферах, % (функцыянальна першая мова – польская)**




## V. Моўныя практыкі беларускіх палякаў: дыгласія і камунікатыўныя асяроддзі

Выбар роднай мовы, як мы ўжо адзначалі, – гэта ў значнай ступені сімвалічны акт, што можа мець розныя суб'ектыўныя падставы. Гэтак жа няпэўна гэты выбар можа быць звязаны і з сапраўднымі моўнымі практыкамі – гэта значыць з тым, якою моваю людзі карыстаюцца ў розных камунікатыўных сітуацыях. Сучасная Беларусь вызначаецца высокаю ступенню няўзгодненасці паміж выбарам роднай і рэальна ўжыванай мовы. Гэтак, паводле апошняга перапісу насельніцтва, у якасці роднай беларускую мову назвалі 53 % ад колькасці насельніцтва, а ў якасці мовы, на якой размаўляюць дома (гэта значыць у найбольш блізкім камунікатыўным асяроддзі), – толькі 23 % (табліца 11).

Аналіз матэрыялу даследавання паказвае, што выкарыстанне беларускімі палякамі мовы ў розных камунікатыўных асяроддзях адрозніваецца ў залежнасці ад таго, якую мову прадстаўнікі гэтай супольнасці лічаць роднай (табліца 12).

Акрамя пераважнай ролі рускай мовы ў камунікатыўных практыках (якая дасягае максімуму ў найбольш «грамадскіх» і не свабодных для індывідуальнага выбару сферах – на працы, вучобе, на вуліцы і г. д.) простае размеркаванне адказаў на гэтыя пытанні паказвае нераўнамернасць выкарыстання моваў у розных камунікатыўных асяроддзях.

Паспрабуем прааналізаваць моўныя практыкі ў групах, для якіх «функцыянальна першымі»[10] ёсць розныя мовы (малюнкі 1–3).[11]

Відавочна праяўляецца «разнавектарнасць» выкарыстання ў розных камунікатыўных сітуацыях з аднаго боку рускай, а з іншага – беларускай і польскай моваў. Руская адыгрывае ролю мовы, якая «выціскае» з выкарыстання дзве іншыя, і чым вышэйшая сацыяльная нармаванасць

**Табліца 12. Сувязь паміж выкарыстаннем мовы ў розных камунікатыўных асяроддзях і выбарам роднай мовы**

| На якой мове Вы часцей за ўсё: | Думаеце | | Маеце стасункі: | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | колькасць | % | у сям'і, дома (%) | у коле сяброў і знаёмых (%) | на працы, вучобе (%) | на вуліцы, у транспарце, іншых грамадскіх месцах (%) |
| Беларуская | 180 | 23,0 | 22,1 | 15,6 | 13,3 | 15,2 |
| Руская | 494 | 63,1 | 55,8 | 64,5 | 75,3 | 76,3 |
| Польская | 79 | 10,1 | 13,0 | 9,5 | 4,2 | 2,6 |
| Іншая | 30 | 3,8 | 9,1 | 10,4 | 7,2 | 5,9 |
| Разам | 783 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |

**Табліца 13. Функцыянальна першая мова ў розных узроставых групах (%)**

| На якой мове Вы часцей за ўсё думаеце? | Узроставыя групы | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 16–19 | 20–29 | 30–39 | 40–49 | 50–59 | 60–85 |
| Беларуская | 14,1 | 18,2 | 15,8 | 25,2 | 29,5 | 37,8 |
| Руская | 80,0 | 75,7 | 73,4 | 59,1 | 57,9 | 29,4 |
| Польская | 4,7 | 5,4 | 6,3 | 10,1 | 8,4 | 26,9 |
| Іншая | 1,2 | 0,7 | 4,5 | 5,6 | 4,2 | 5,9 |

---

[10] Мы выкарыстоўваем гэты тэрмін з пэўнай агаворкай – бо ў прынятай трактоўцы ён азначае мову, на якой чалавек не толькі найбольш натуральна думае, але і выяўляе свае думкі, што немагчыма дакладна высветліць у рамках скарыстанай методыкі.

[11] У далейшы аналіз уключым толькі тых, хто ў якасці функцыянальна першай мовы абраў беларускую, рускую або польскую, бо група тых, хто адказаў, што часцей за ўсё думае на іншай мове, занадта малая для аналізу.

**Малюнак 4. Выкарыстанне беларускай мовы ў розных сферах у залежнасці ад узросту (%)**




**Малюнак 5. Выкарыстанне рускай мовы ў розных сферах у залежнасці ад узросту (%)**



сітуацыі, тым мацней гэта праяўляецца. Прасочваецца выразная залежнасць выкарыстання той або іншай мовы ў розных сферах ад узросту рэспандэнтаў (табліца 13).

Калі ў самай старэйшай узроставай групе размеркаванне паміж трыма асноўнымі мовамі (беларускай, рускай і польскай) амаль раўнамернае, то з памяншэннем узросту роля беларускай і польскай моваў катастрафічна зніжаецца. Пры гэтым калі беларуская мова выступае функцыянальна першаю прыкладна для адной шостай моладзі (да 30 гадоў), то польскую мову ў якасці такой называюць толькі 4–5 % гэтай узроставай групы.

Падобныя тэндэнцыі можна назіраць і ва ўжыванні мовы ў розных камунікатыўных асяроддзях: з павышэннем узросту рэспандэнтаў павышаецца ўзровень выкарыстання беларускай і польскай моваў, у той час як малодшыя ўзроставыя групы практычна ўва ўсіх сацыяльна нармаваных сітуацыях (у найменшай ступені – у сям'і) схільныя да пераважнага выкарыстання рускай мовы (малюнкі 4–6).

Яшчэ адзін сацыяльна-дэмаграфічны фактар, які падобным чынам уплывае на выбар мовы, – тып населенага пункту (малюнак 7). Руская мова значна больш інтэнсіўна выкарыстоўваецца гараджанамі ўва ўсіх камунікатыўных асяроддзях з захаваннем той жа заканамернасці – чым большае паселішча, тым больш рускай мовы, у той час як на вёсцы больш актыўна

**Табліца 14. Ацэнка рэспандэнтамі ўласных навыкаў валодання польскай мовай (%)**

| Ацаніце, калі ласка, наколькі добра Вы можаце на польскай мове: | размаўляць | чытаць | пісаць |
|---|---|---|---|
| Выдатна | 10,2 | 9,8 | 5,6 |
| Добра | 26,9 | 23,7 | 14,9 |
| Сярэдне | 34,4 | 25,8 | 18,5 |
| Ніжэй чым сярэдне | 21,2 | 26,1 | 28,4 |
| Зусім не магу | 7,3 | 14,6 | 32,6 |

**Табліца 15. Узровень валодання польскай мовай у залежнасці ад узросту і тыпу населенага пункту[12]**

| Узровень валодання | Узроставыя групы | | | | | | Тып паселішча | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 16–19 | 20–29 | 30–39 | 40–49 | 50–59 | 60–85 | горад | вёска |
| Размоўны | 2,87 | 3,03 | 2,91 | 3,11 | 3,18 | 3,52 | 3,09 | 3,10 |
| Чытанне | 2,53 | 2,78 | 2,64 | 2,87 | 3,04 | 3,26 | 2,86 | 2,81 |
| Пісанне | 2,09 | 2,27 | 2,11 | 2,26 | 2,46 | 2,71 | 2,28 | 2,34 |

12 У табліцы прадстаўленыя сярэднія балы ацэнкі валодання польскай мовай па групах, ад аднаго – «зусім не валодаю» да пяці – «валодаю выдатна».

**Малюнак 6. Выкарыстанне польскай мовы ў розных сферах у залежнасці ад узросту (%)**




выкарыстоўваюцца беларуская і польская мовы, а таксама «іншая мова» (найчасцей гэта ўсё тая ж «трасянка» або розныя варыянты змяшэння польскай, рускай і беларускай моваў).

Нізкі ўзровень выкарыстання польскай мовы (роўна як і беларускай) часта звязваюць з нізкім узроўнем валодання. Аднак, як паказваюць вынікі нашага даследавання, больш за дзве траціны рэспандэнтаў, што ўдзельнічалі ў апытанні, валодаюць прынамсі гутарковаю мовай у сярэдняй або высокай ступені (табліца 14). Зусім не ведаюць польскай толькі каля 7 % рэспандэнтаў. Узровень валодання пісьмоваю моваю крыху ніжэйшы – каля 60 % рэспандэнтаў ацанілі свае здольнасці да чытання і каля 40 % да пісьма на польскай мове як сярэднія або вышэйшыя за сярэднія.

Пры гэтым узрост і тып паселішча ўплываюць на веданне польскай мовы ў значна меншай ступені, чым на выкарыстанне. І хоць са зніжэннем узросту рэспандэнтаў узровень валодання польскай мовай зніжаецца, аднак не так істотна. Адрозненні ж паміж горадам і вёскай настолькі малыя, што іх можна пакінуць без увагі (табліца 15).

Разам з тым, сярод беларускіх палякаў досыць моцна выяўленае імкненне да пашырэння сферы і павышэння ўзроўню выкарыстання польскай мовы. Гэтак, амаль палова рэспандэнтаў выказала жаданне больш часта выкарыстоўваць польскую мову ў стасунках, каля 60 % апытаных хацелі б палепшыць сваё валоданне польскай мовай. І хоць жаданне пашырыць магчымасці стасункаў на польскай мове ў больш высокай ступені ўласцівае самым старэйшым узроставым групам, аднак і прадстаўнікі астатніх пакаленняў адчу-

**Малюнак 7. Выкарыстанне розных моваў у асноўных сферах у залежнасці ад тыпу паселішча (%)**




ваюць такую патрэбу. Што тычыцца жадання палепшыць веданне польскай мовы, то яно мацней за ўсё выяўляецца якраз сярод маладых беларускіх палякаў (табліца 16).

Акрамя таго, каля паловы (51,5%) супольнасці беларускіх палякаў, якія ўдзельнічалі ў даследаванні, лічаць, што ўва ўсіх населеных пунктах Беларусі, у якіх жывуць палякі, трэба забяспечыць магчымасць атрымання сярэдняй адукацыі на польскай мове. Яшчэ 20% лічаць дастатковым, каб такая магчымасць была хаця б у тых населеных пунктах, дзе палякі складаюць большасць.

Івона Кабзіньска ў сваім даследаванні адзначае, што няведанне шматлікімі палякамі польскай мовы абмяжоўвае перадачу культурнай спадчыны, у той жа час гэта стымулюе працэсы стварэння польскіх школаў і навучання польскай мове (Kabzińska, 1999: 52). Цяжка вызначыць, якую сілу насамрэч маюць выяўленыя інтэнцыі беларускіх палякаў на пашырэнне сферы ўжывання польскай мовы. Магчыма, гэта толькі даніна павагі нацыянальнай мове, а не рэальная патрэба ў яе вывучэнні і ўжыванні. Аднак нават на такім узроўні адзначаныя тэндэнцыі адлюстроўваюць патэнцыял змены ролі і месца польскай мовы ў жыцці беларускіх палякаў і культуры Беларусі.

**Табліца 16. Устаноўкі на пашырэнне сферы выкарыстання і павышэнне ўзроўню валодання польскай мовай у залежнасці ад узросту (%)**

| | | Узроставыя групы | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | **16–19** | **20–29** | **30–39** | **40–49** | **50–59** | **60–85** |
| Ці хацелася б Вам больш часта выкарыстоўваць польскую мову ў стасунках? | Так | 49,4 | 46,4 | 46,8 | 49,7 | 60,4 | 62,2 |
| | Не | 25,9 | 25,4 | 24,9 | 26,4 | 19,8 | 22,5 |
| | Цяжка адказаць | 24,7 | 28,2 | 28,3 | 23,9 | 19,8 | 15,3 |
| Ці хацелі б Вы палепшыць сваё валоданне польскай мовай? | Так | 70,5 | 68,7 | 64,8 | 57,6 | 60,6 | 42,4 |
| | Не | 7,1 | 15,6 | 19,0 | 20,9 | 22,3 | 35,6 |
| | Не ведаю | 22,4 | 15,7 | 16,2 | 21,5 | 17,1 | 22,0 |

## Некаторыя высновы

Такім чынам, на аснове аналізу асаблівасцяў выбару і ўжывання рэспандэнтамі розных моваў можна адзначыць наступныя асаблівасці моўных практыкаў беларускіх палякаў:

***Выбар роднай мовы***. Па-першае, каля траціны апытаных беларускіх палякаў выбіраюць у якасці роднай мовы беларускую, і практычна столькі ж – рускую. Група «польскамоўных» амаль у два разы меншая за кожную з дзвюх вышэйназваных – у якасці роднай польскую называюць толькі 17,7 %. Асаблівую кагорту ўяўляюць з сябе групы, якія абралі варыянты «іншая» і «цяжка адказаць адназначна». Як паказвае даследаванне, у якасці «іншай» мовы часцей за ўсё называецца «трасянка» або спалучэнне моваў: беларускай і польскай, рускай і польскай.

Па-другое, пры выбары роднай мовы зафіксаваныя статыстычна значныя адрозненні паводле наступных параметраў: адукацыя, узрост, тып населенага пункту. Група апытаных, якія выбралі польскую мову ў якасці роднай, маюць у параўнанні з астатнімі больш высокі ўзровень адукацыі. Найменш адукаванымі аказаліся тыя, хто абраў у якасці роднай беларускую мову. «Рускамоўныя» часцей за іншых маюць сярэднюю спецыяльную адукацыю. У залежнасці ад тыпу населенага пункту апытаныя, якія абралі рускую мову ў якасці роднай, адносяцца пераважна да гарадскіх жыхароў. Сярод тых, хто лічыць роднаю беларускую і польскую мовы, больш за 40 % жывуць у сельскай мясцовасці. Паводле ўзросту група «польскамоўных» старэйшая за астатнія, а найбольш маладымі аказаліся «рускамоўныя».

Па-трэцяе, аналіз інфармацыі паказвае, што рэспандэнты, якія назвалі ў якасці роднай мовы польскую, дэманструюць як большую ступень уключанасці ў супольнасць беларускіх

палякаў, так і больш цесныя сувязі з палякамі, што жывуць у Польшчы. Можна сказаць, што гэтая група ў найбольшай ступені ўключаная ў польскую культуру ды патэнцыйна можа замацоўваць і трансляваць яе ў Беларусі.

Па-чацвёртае, «беларускамоўныя», з аднаго боку, дастаткова інтэграваныя ў супольнасць беларускіх палякаў, а з іншага – у найбольшай ступені прыхільныя да Беларусі як краіны і адчуваюць гонар за беларускае грамадзянства. «Рускамоўныя» адчуваюць высокую прыхільнасць і гонар за Беларусь, але пры гэтым у значнай ступені выключаныя з «польскасці».

***Моўныя практыкі***. Найперш варта адзначыць, што выкарыстанне беларускімі палякамі мовы ў розных камунікатыўных асяроддзях вынікае з моўнай сітуацыі ў Беларусі. Гэтая сітуацыя характарызуецца высокаю ступенню няўзгодненасці паміж выбарам і ўжываннем роднай мовы.

У дачыненні да беларускіх палякаў зафіксаваная «разнавектарнасць» выкарыстання рускай, беларускай і польскай моваў. Руская мова відавочна «выціскае» ўжыванне дзвюх іншых, і чым вышэйшая сацыяльная нармаванасць камунікатыўнай сітуацыі, тым мацней выяўляецца гэтая тэндэнцыя .

Акрамя гэтага, прасочваецца залежнасць выкарыстання той або іншай мовы ад узросту рэспандэнтаў: з павелічэннем узросту павышаецца выкарыстанне беларускай і польскай моваў, у той час як больш маладыя рэспандэнты схільныя выкарыстоўваць галоўным чынам рускую мову. Апошняя больш інтэнсіўна выкарыстоўваецца гараджанамі, у той час як у сельскай мясцовасці больш актыўна выкарыстоўваюцца беларуская і польская мовы.

Разам з тым, аналіз звестак паказвае, што сярод беларускіх палякаў досыць моцна выяўляецца жаданне пашырыць сферу і павысіць ўзровень выкарыстання польскай мовы.

Падводзячы вынікі аналізу, адзначым прынцыповую неаднароднасць супольнасці беларускіх палякаў ува ўсіх вымярэннях, звязаных з моўнымі практыкамі. Аднак найбольш моцнай тэндэнцыяй выступае «русіфікацыя» беларускіх палякаў (якая працягваецца і адбываецца ў рэчышчы агульнага развіцця моўнай сітуацыі ў Беларусі), што не можа не ўплываць і на працэсы трансфармацыі этнічнай ідэнтычнасці.

Выкарыстоўваючы канцэпт дыглясіі, рускую мову можна разглядаць як «высокую», што выкарыстоўваецца ў сацыяльна нармаваных сітуацыях: на працы, вучобе, у грамадскіх месцах. Ва ўсякім выпадку, яна адыгрывае такую ролю для той часткі беларускіх палякаў, для якой не ёсць функцыянальна першаю моваю. Руская мова выціскае беларускую і польскую па меры пашырэння межаў камунікатыўнага асяроддзя і павелічэння ступені нармавання сітуацыі. Пры гэтым польская мова транслюецца ў асноўным прадстаўнікамі старэйшага пакалення беларускіх палякаў і пераважна жыхарамі сельскай мясцовасці.

Тым не менш, беларускія палякі – незалежна ад узросту і тыпу населенага пункту – захоўваюць дастаткова моцную інтэнцыю да пашырэння

сферы ўжывання польскай мовы, што выяўляецца як у жаданні больш часта выкарыстоўваць яе ў стасунках, так і ў імкненні павысіць сваю лінгвістычную кампетэнцыю. Як адну з праяваў стаўлення да нацыянальнай мовы можна разглядаць і жаданне беларускіх палякаў пашыраць/увесці у Беларусі сярэднюю адукацыю на польскай мове. Такім чынам, нягледзячы на тое, што роля польскай мовы ў самаідэнтыфікацыі беларускіх палякаў невысокая, гэтак жа як і яе прысутнасць у камунікатыўных практыках, прадстаўнікі супольнасці маюць жаданне захоўваць і трансляваць польскую мову (або прынамсі дэкларуюць такое жаданне).

**Літаратура**


1. Бабкоў, І. Кашкурэвіч, Т. Хадановіч, А. Жбанкоў, М. (2010). «Трасянка: паміжжа культур ці патаемная беларускасць?» *Наше мнение*, URL (доступ 20.07.2010) http://nmnby.eu/news/discussions/2755.html.
2. Булыко А. Н. (ред.), Крысин Л. П. (ред.) (1999). *Типология двуязычия и многоязычия в Беларуси*. Минск: Беларуская навука.
3. *Министерство статистики и анализа Республики Беларусь* (2001). Национальный состав населения Республики Беларусь и распространенность языков (Стат.сб.). Минск: Информстат Минстата Республики Беларусь.
4. *Национальный статистический комитет Республики Беларусь*. Перепись населения Республики Беларусь 2009 года. Выходные регламентные таблицы. Таблица 5.9. Население по национальности и языку, на котором обычно разговаривают дома. URL (доступ 14.02.2011) http://belstat.gov.by/homep/ru/perepic/2009/vihod_tables/5.9-0.pdf.
5. Титаренко, Л.Г. (2009). «Развитие национальной идентичности населения Беларуси в условиях современных глобализационных и интеграционных процессов», в Бабосов Е.М. (ред.) Взаимодействие устойчивости и инновационности в развитии белорусского общества. Минск: Белорусская наука.
6. Ferguson, C. A. (1959) *Diglossia*, Word, No. 15, 325–340.
7. Kabzińska, I. (1999). *Wśród "kościelnych Polaków": wyznaczniki tożsamości etnicznej (narodowej) Polaków na Białorusi*. Warszawa: Instytut Archeologii i Etnologii Polskiej.
8. Straczuk, J. (1999). *Język a tożsamość człowieka w warunkach spolecznej wielojezyczznosci. Pogranicze polsko-litewsko-bialoruskie.* Warszawa: Wydawnictwa Uniwersytetu Warszawskiego.